**РЭЙТЫНГ ЛУКАШЭНКІ ЗАСТАЕЦЦА РЭКОРДНА НІЗКІМ**

*«...рэйтынг прэзыдэнта Лукашэнкі застаецца рэкордна нізкім за яго гатовы галасаваць толькі 30,5 %».*

*чытайце на стар.2*

**АНТЫГЛАБАЛІЗМ ШТО ГЭТА?!**

*«Антыглябалізм гэта спроба знайсьці апазыцыю у адносінах да таго, што няможа быць у апазыцыі».*

*чытайце на стар.3*

**ЕСЛИ У ВАС В КВАРТИРЕ ХОЛОДНО!!!**

*«Форма жалобы в ЖЭО».*

*глядзіце на стар.4*


# ДЗЯНЬНІЦА

Інфармацыйнае выданьне грамадзкага аб'яднаньня "Усяслаў Чарадзей"



№1-2, студзень 2003

Заснаваная ў 1999 годзе
Выходзіць чатыры разы на месяц


## ДОБРЫ ВЕЧАР ТАМУ, ХТО Ў ГЭТЫМ ДАМУ...

***13 гадзіне 7 студзеня з пляцу Будаўнікоў у бок вёскі Заскаркі рушыў аўтобус з калядоўшчыкамі. Першая вёска прынесла як радасьць так і расчараваньне.***

Сяржук Стахоўскі

Менавіта так пачынаецца адна з калядных песьняў, якімі так багаты беларускі фальклёр. Традыцыя калядаваньня на Беларусі склалася вельмі даўна, яшчэ ў дахрысьціянскія часы, калі тагачасныя беларусы пакланяліся багам. Тады Каляды былі пэўным увасабленьнем дастатку, багацьця і, відаць, з тых часоў пайшла традыцыя адорваць калядоўшчыкаў, якія зычылі гаспадарам шчасьця, дабрабыту, урадлівасьці. У хрысьціянскія часы традыцыя сьвяткаваньня развівалася і прыстасоўвалася пад рэлігію, але ейная сутнасьць фактычна не зьмянілася. Ужо колькі соцень год ходзяць калядоўшчыкі па беларукай зямлі ўсьлед за сонцам. Самым цікавым і палюбіўшымся персанажам сьвята традыцыйна зьяўляецца каза сымбаль багацьця, урадлівасьці і прыплоду. Вельмі добра адлюстравана гэта ў нашым падзьвінскім фальклёры: «Дзе каза ходзіць, там жта родзіць, дзе каза рагом, там жыта стагом, дзе каза нагой, там жыта камой, дзе каза хвастом, там жыта кустом». Ходзіць яна разам з Каладой, Міханошам дый іншымі калядоўшчыкамі, таньчыць з гаспадарамі і дзецьмі, гуляе, бавіцца.

Здавалася б, старажытныя традыцыі ў нашым сучасным жыцьці ня самая папулярная рэч, нават калі гэта Каляды. Але і ў нашым маладым горадзе знаходзяцца людзі, якім неабыякавыя старажытныя беларускія традыцыі і абрады, такія як Каляды, Купальле, Гуканьне вясны. Сем год гэта нямала. Прынамсі для культурна-асветніцкай арганізацыі, такой, як гісторыка-культурніцкі клюб «Княжыч». Менавіта сябрамі «Княжычу» ўжо сем год запар адраджаюцца і рэканструююцца традыцыйныя беларускія сьвяты, песьні, гульні і танцы. Сем разоў палала Купальскае вогнішча, сем разоў праходзілі калядоўшчыкі з казой ды сьпевамі па вёсках Полаччыны. У гэтым годзе калядаваньне было прызначана на 7 студзеня дату правалаўнага Раства, бо большасьць вёсак ў Полацкім рэгіёне традыцыйна праваслаўныя. Іхныя жыхары прызвычаіліся сустракаць калядоўшчыкаў менавіта ў гэты дзень. Такім чынам, а 13 гадзіне 7 студзеня з пляцу Будаўнікоў у бок вёскі Заскаркі рушыў аўтобус з калядоўшчыкамі. Першая вёска прынесла як радасьць так і расчараваньне. На вялікі жаль ня ўсе хаты сустракалі калядоўшчыкаў некаторыя жыхары проста выключалі сьвятло, альбо не пускалі ў хату. Тлумачэньне простае беларуская вёска страшна зьбяднела за апошнія сем год, чаму? Думайце са-мі, але людзі саромеліся сваёй беднасьці (бо калядоўшчыкаў трэба адорваць) і нават за проста так не дазвалялі калядаваць. Шкада! Бо нават вяскоўцы забываюцца на векавыя традыцыі, якія прынята шанаваць і перадаваць далей нашчадкам. Наступная вёска Варонічы, сустрэла больш ветліва, бо гаспадары, да якіх прыйшлі калядоўшчыкі запрашалі да сябе яшчэ ў мінулым годзе, і былі шчыра радыя сустрэць і адарыць гасьцей. Такім чынам, гучалі песьні, каза весела таньчыла, потым раптоўна памірала, а хітры Міханоша прасіў што даці казе, бо бяз сыру, альбо кавалку сала каза папросту не адужыве і застанецца мёртвай. Што зробіш! Казу частавалі ня толькі сырам ды салам, не абыходзілася і бяз добрай чаркі, перападала і астатнім калядоўшчыкам. Ня ўсё ж казе! Апошняй вёскай на мапе сёлетняга калядаваньня стала Блізніца, у якую сябры «Княжычу« завіталі ўжо ў трэці раз. Прычым небезпасьпяхова, як і ў Варонічах мінулагодняя гаспадары добра памяталі калядоўшчыкаў, і на гэты раз шчодра адорваючы. Каза і тут не стаяла ззаду таньчыла, сьпявала, бадалася і пужала мясцовых дзяўчат. Тыя, праўда, ня надта пужаліся, відаць каза ім была да спадобы.

Стомленыя, але задаволеныя вярталіся «Княжычы» ў Наваполацак. Надзейны аўтобус Наваполацкага Аддзелу культуры на чале з нястомным кіроўцам Міхал Міхалычам нарэшце даехаў да «гістарычнай радзімы», дзе калядоўшчыкі працягнулі сьвята ў Наваполацкім Цэнтры Рамёстваў і Нацыянальнай культуры, сьпяваючы тыя ж калядныя песьні і падядаючы шчодрыя падарункі жыхароў усіх трох вёсак, ды спадзяючыся, што ў хуткім часе Беларуская Вёска ўсё ж здолее прыняць калядоўшчыкаў як сьлед, годна і шчодра!







*фота. С.Балая*

# HUMAN RIGHTS WATCH ПРА БЕЛАРУСЬ-2002

***Міжнародная няўрадавая праваабарончая арганізацыя Human Rights Watch зьмясьціла на сваім сайце (www. hrw. org) чарговую справаздачу аб стане правоў чалавека ў сьвеце за мінулы год. 2002 год, на думку міжнародных экспэртаў, вызначаўся тым, што «рэпрэсіўныя ўрады ў Эўропе й Цэнтральнай Азіі апраўдвалі парушэньні правоў чалавека... глябальнай барацьбой супраць тэрарызму». У прыватнасьці, гаворыцца ў справаздачы «беларускія ўлады надалі сваім праваахоўным органам па-сталінску шырокія паўнамоцтвы па назіраньні за грамадзянамі».***

«Цягам году А. Лукашэнка імкнуўся пакараць тых, хто кінуў яму выклік у часе прэзыдэнцкіх выбараў, і тых, хто ім дапамагаў» лічаць аўтары справаздачы HRW. Самы яркі прыклад гэтага змушаны сыход «адзінага кандыдата ад апазыцыі» У. Ганчарыка з пасады старшыні ФПБ мяркуюць экспэрты. Праваабаронцы нагадваюць таксама пра сыход з ФПБ мэнэджэра ягонае выбарчае кампаніі В. Палевіковай.

«Адзін з галоўных апанэнтаў Лукашэнкі, былы прэм'ер-міністар Міхаіл Чыгір, у ліпені 2002 г. быў засуджаны на тры гады зьняволеньня (з адтэрміноўкай на два гады) па зьвінавачаньні за ўхіленьне ад уплаты падаткаў». У гэтым жа шэрагу экспэрты HRW бачаць і перасьлед лідэра АГП А. Лябедзькі, прыцягнутага ў ліпені мінулага году да адказнасьці за артыкул на тэму беларускага гандлю зброяй з краінамі «восі зла». «Ягоная партыя атрымала афіцыйнае папярэджаньне, што паставіла яе пад пагрозу ліквідацыі» падкрэсьліваюць праваабаронцы. «Працягваўся цягам году ціск і на актывістаў маладога пакаленьня апазыцыі» канстатуюць аўтары справаздачы, прыгадваючы штрафы й адміністратыўныя арышты лідэраў Маладога фронту й «Зубру».

«На зьмену рэйдам падаткавікоў і канфіскацыі абсталяваньня ў рэдакцыях недзяржаўных мэдыяў у год выбараў, у 2002-м годзе прыйшоў крымінальны перасьлед журналістаў» гаворыцца ў справаздачы Human Rights Watch. Міжнародныя праваабаронцы прыгадваюць прысуды «пагонеўцам» М. Маркевічу й П. Мажэйку, а таксама рэдактару «Рабочага» В.Івашкевічу. Пад «прыцэлам» аказалася ў 2002 годзе газэта «Наша свабода», якую суд абавязаў выплаціць U. S.$55.000 у якасьці кампэнсацыі за зьняважу дзяржаўнага чыноўніка (А. Тозіка). Пасьля таго, як у газэты была сканфіскавана маёмасьць і замарожаны банкаўскі рахунак, яна змушана была спыніць сваё існаваньне.

Справаздача фіксуе таксама факты прыцягненьня да адказнасьці апазыцыйных лідэраў за правядзеньне вулічных акцыяў: у прыватнасьці, адміністратыўны арышт М. Статкевіча за шэсьце ў гадавіну прыняцьця Канстытуцыі, а таксама карныя захады супраць удзельнікаў і арганізатараў Дня Волі й шэсьця «Так жыць нельга!».

«Імкнучыся кантраляваць усе сфэры сацыяльнага жыцьця, беларускія ўлады пайшлі на абмежаваньне свабоды веравызнаньня» канстатуе справаздача Human Rights Watch. Экспэрты падаюць у якасьці прыкладу новы Закон аб свабодзе веравызнаньня, прыняты парлямэнтам у кастрычніку, разбурэньне храму Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы пад Горадняй, а таксама санкцыі дачынна індуістаў і крышнаітаў, якія ладзілі свае рэлігійныя сьвяткаваньні на гарадзкіх вуліцах.

Гэтыя ды шмат якія іншыя факты парушэньня правоў чалавека ў Беларусі экспэрты Human Rights Watch улучылі ў справаздачу за 2002 год.

***В.Бабак***
*(www.racyja.pl)*

# ДАКЛАДНЫХ ЗЬВЕСТАК ПАКУЛЬ НЯМА, АЛЕ ШАНЦАЎ У АПАЗЫЦЫІ ТАКСАМА МАЛА...

*фота. IREX Pro/MEDIA*

***15 студзеня завершыўся чарговы этап выбарчай кампаніі фармаваньне ўчастковых камісіяў. Але вынікі стануць вядомыя не раней за 17 студзеня. Тлумачыцца гэта, паводле сакратара ЦВК Мікалая Лазавіка, вельмі вялікім аб'ёмам працы: у краіне больш за 6 тысяч выбарчых участкаў і ўсе зьвесткі трэба сабраць, падлічыць, абагульніць.***

Месяц таму Мікалай Лазавік на прэсавай канфэрэнцыі публічна прызнаў, што пры фармаваньні камісіяў, натуральна, вялікую ролю адыгрывае суб'ектыўны фактар заяваў зазвычай значна больш, чым месцаў у камісіі, і выканкамам, маўляў, ёсьць з каго выбіраць... Таму выбіраюць, як правіла, «сваіх» людзей адданых, паслухмяных і кіраваных.

Што да прадстаўнікоў палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў, то, калі ў склад акруговых камісіяў яшчэ трапілі хоць адзінкі сябраў партыяў, дык ува ўчастковыя камісіі прынамсі, у вялікіх гарадох не трапляе ніхто. Так, у Горадні прадстаўнікі партыі БНФ спрабавалі вылучыць 33 сябра партыі ў склад участковых камісіяў па выбарах у Гарадзенскі гарадзкі Савет. Ніводзін прадстаўнік партыі БНФ у камісіі ня ўлучаны. Рада Гарадзенскай партыйнай арганізацыі БНФ нават выступіла з заявай-пратэстам.

Тое самае й у сталіцы. Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Народная грамада» вылучыла ў склад участковых камісіяў у Кастрычніцкім раёне Менску 25 сваіх сябраў. Аднак ніхто з прастаўнікоў БСДП «Народная грамада» там не зарэгістраваны.

Партыя камуністаў Беларуская пакуль ня мае зьвестак пра зарэгістраваных сваіх сябраў і вельмі скептычна ставіцца да таго, што, магчыма, хтосьці зь сябраў ПКБ дзесьці трапіць у склад камісіяў. Аб'яднаная грамадзянская партыя таксама пакуль не валодае інфармацыяй, каб хоць хто-небудзь з вылучэнцаў партыі трапіў у склад участковых камісіяў. Як паведаміў адказны за выбарчую кампанію ў АГП Сяргей Альфэр, калі б сябры партыі былі ўлучаны ў склад камісіяў, яны пра гэта ўжо ведалі б, інфармацыя прасачылася б. А так надзеі няма. Дый мясцовая вертыкаль даўно ўжо вызначылася з кандыдатурамі старшыняў камісіяў і шэраговых чальцоў: туды ўвойдуць людзі, якія лёгка паддаюцца ўплыву. Няма дакладных зьвестак і ў прадстаўнікоў Лібэральна-дэмакратычнай партыі, якія вылучалі па ўсёй краіне 131 сябра партыі ў склад ўчастковых камісіяў, паведаміў Радыё Рацыя Ўладзімер Каруліс.

***Клара Шафарнянская, RR***

*фота. IREX Pro/MEDIA*



# «КАЛІ ЗАЎТРА ВАЙНА...»

***17 студзеня набыў сілу Закон Рэспублікі Беларусь «Аб ваенным становішчы». Некалькі дзён таму Закон падпісаў Аляксандар Лукашэнка, якому нададзены паўнамоцтвы ў выпадку неабходнасьці сваім указам абвесьціць ваеннае становішча пры зьнешняй ваеннай пагрозе ці нападзе на краіну.***

Прадстаўнікі сілавых структур краіны Міністэрства абароны, КДБ, Рады бясьпекі, Унутраных войскаў лічаць, што «Закон аб ваенным становішчы» цалкам адпавядае нормам міжнароднага права, Жэнэўскай канвэнцыі аб абароне ахвяраў узброеных канфліктаў, рэзалюцыям Генэральнай Асамблеі ААН, Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правох. Упершыню ў заканадаўчым акце дакладна вызначана, ШТО такое ваеннае становішча, расьпісаны паўнамоцтвы дзяржаўных органаў, дадзены пералік усіх захадаў, уводжаных у выпадку ваеннага становішча. У Законе дадзена дакладнае вызначэньне тэрмінаў «нападзеньне» й «ваенная пагроза».

Згодна з Законам, ваеннае становішча гэта асаблівы прававы рэжым дзейнасьці дзяржавы й грамадзтва, асноўнымі характэрнымі рысамі якога зьяўляюцца: па-першае, пашырэньне ўплыву дзяржавы на ўсе сфэры дзейнасьці грамадзтва й наданьне дзяржаўным структурам паўнамоцтваў; па-другое, часовае абмежаваньне правоў і свабодаў асобы, правоў арганізацыяў, а таксама ўскладаньне на іх дадатковых паўнамоцтваў.

Паводле намесьніка начальніка Генэральнага штабу Міністэрства абароны палкоўніка Пятра Ціханоўскага, закон цалкам адпавядае стандартам дэмакратычнай краіны.

**П. Ц.:** Падставамі для ўвядзеньня ваеннага становішча ёсьць ваенная пагроза ці напад. Пагрозай лічыцца абвешчаньне вайны Беларусі з боку іншай краіны ці краінаў, канцэнтрацыя войскаў іншай краіны ці краінаў побач зь межамі Беларусі, якая ўказвае на рэальнае жаданьне выкарыстаць сілу супраць Беларусі, мабілізацыя войскаў і іншыя дзеяньні.

У часе ваеннага становішча пашыраюцца паўнамоцтвы дзяржаўнага апарату й уводзіцца абмежаваньне правоў і свабод грамадзян. Могуць: усталявацца цэнзура друку, адмяняцца выбары, абмяжоўвацца перасоўваньне грамадзян. Дзяржава можа рэквізаваць транспарт і маёмасьць грамадзян. На час ваеннага становішча дазваляецца нават прыпыняць ці забараняць цалкам дзейнасьць палітычных партыяў, грамадзкіх арганізацыяў, у тым ліку й міжнародных, адносна якіх ёсьць дакладныя зьвесткі, што іхная дзейнасьць нясе пагрозу бясьпецы краіны. Прадстаўнікі сілавых структур пры тлумачэньні Закону пераконвалі журналістаў, што ваеннае становішча можа быць уведзена толькі ў выпадку пагрозы дзяржаве звонку. Калі нейкія дэструктыўныя сілы дзейнічаюць унутры краіны, то могуць быць ужыты іншыя законы (да прыкладу, Закон аб надзвычайным становішчы).

Нагляд за выкананьнем законаў падчас ваеннага становішча, згодна з артыкулам 21, ажыцьцяўляюць Генэральны пракурор і падначаленыя яму пракуроры.

***Клара Шафарнянская, RR***

# РЭЙТЫНГ ЛУКАШЭНКІ ЗАСТАЕЦЦА РЭКОРДНА НІЗКІМ

***Большасьць беларусаў (54 %) лічаць, што сытуацыя ў краіне разьвіваецца ў «няправільным кірунку», а рэйтынг прэзыдэнта Лукашэнкі застаецца рэкордна нізкім за яго гатовы галасаваць толькі 30,5 %. Большасьць насельніцтва краіны не падрымлівае ідэі пераабраньня Лукашэнкі на трэці тэрмін (57 %). Толькі 17,7 % падтрымліваюць пляны ўваходу ў склад Расеі. Пра гэта сьведчаць вынікі апошняга сацапытаньня, праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў (НІСЭПД).***

Эканамічная сытуацыя ў краіне пагоршылася. Апытаньне выявіла, што насельніцтва так і не дачакалася абяцанай лібэралізацыі, а сацыяльныя льготы й прэфэрэнцыі скараціліся заявіў прадстаўнік НІСЭПД Уладзімер Дорахаў. «Апошнія месяцы рэйтынг Лукашэнкі вагаўся на ўзроўні 2730 %» паведаміў ён. Адразу пасьля пераабраньня на другі прэзыдэнцкі тэрмін у лістападазе 2001 году рэйтынг Лукашэнкі складаў 46 %. Цяпер толькі 30,5 % гатовы прагаласаваць за Лукашэнку на новых прэзыдэнцкіх выбарах.

Разам з тым, апытаньне чарговы раз ня выявіла лідэра, які мог бы скласьці канкурэнцыю Аляксандру Лукашэнку: 5,2 % набраў лідэр лібэрал-дэмакратаў Сяргей Гайдукевіч, 4,4 % старшыня «Надзеі» Валянціна Палевікова. Рэйтынгі астатніх палітыкаў не перавышаюць 4 %. Між тым, 80,9 % апытаных ня ведаюць кандыдата, які мог бы канкураваць з Лукашэнкам на прэзыдэнцкіх выбарах.

Не падтрымлівае насельніцтва таксама ідэі пераабраньня цяперашняга кіраўніка дзяржавы на трэці прэзыдэнцкі тэрмін. Супраць зьменаў у Канстытуцыі, якія давалі б магчымасьць абірацца трэці раз, выказаліся 57 %. У разе правядзеньня рэфэрэндуму па гэтым пытаньні толькі 22,4 % апытаных выказаліся б за зьмену Асноўнага закону, і 50,7 супраць.

«Ува ўладаў у сапраўднасьці няма асаблівых прычынаў для радасьці: шанцы на рэалізацыю праекту «трэці тэрмін» практычна не павялічыліся» канстатуюць сацыёлягі.

«За» ўваходжаньне Беларусі ў склад Расеі гатовы прагаласаваць толькі 17,7 % выбаршчыкаў. 51,7 % апытаных лічаць, што Беларусь і Расея павінны заставацца незалежнымі дзяржавамі, «зьвязанымі цеснымі палітычнымі й эканамічнымі стасункамі».

Разам з тым, 60,9 % апытаных заявілі, што гатовы галасаваць за ўступленьне Беларусі ў Эўрапейскі Зьвяз. Хочацца верыць, што гэта ілюструе вектар скіраванасьці беларусаў, бо гэтая лічба значна перавышае працэнт прыхільнікаў інтэграцыі з Расеяй.

57,9 % рэспандэнтаў не ўхваляюць падтрымкі, аказванай беларускім кіраўніцтвам Іраку, а 57,2 % не падтрымліваюць зближэньня з арабскімі краінамі й канфліктнай сытуацыі з АБСЭ.

У агульнанацыянальным апытаньні, праведзеным у сьнежні 2002 году НІСЭПД мэтадам «face to face», прыняло ўдзел 1.478 рэспандэнтаў.

***Георгі Астас (Радыё Рацыя)***

# АНТЫГЛАБАЛІЗМ ШТО ГЭТА?!

Тэрмін «Антыглабалізм» моцна ўвайшоў у лексікон сучаснасьці. З большага гэта зьвязана з пастаянна зьяўляючыміся ў навінах на TV зьвестак аб тым, што ў чарговы раз нейкія адмарозкі, у колькасьці некалькіх дзесяткаў тысяч сабраліся пабіць шкло ды папаліць машыны дзе-небудзь у Празе, альбо Сіэтле. Прыгадаць можна таксама спадара Камдэсю, твар якога стаў мішэньню для метка кінутага торціка. Ягоны нос, упрыгожаны вішанкай, так экстравагантна глядзеўся па тым жа TV. Але перад тым, як махаць рукой, ды рабіць пасьпяховыя высновы давайце задумаемся, якія мэты перасьледуюць гэтыя «адмарозкі», і ці такія яны «адмарожаныя» насамрэч, ці можа яны жадаюць нешта давесьці нам?

Ва ўсім сьвеце успрымаюць гэты самы антыглабалізм па-рознаму: ад татальнага непрыняцьця да захапленьня ідэямі і дзеяньнямі антыглабалістаў. Напэўна, як зьява ён найбольш прыцягвае ўвагу, тым больш, што грамадзтва ведае аб ім мы дзякуючы дзеяньням саміх антыглабалістаў, што раз-пораз ладзяць свае шматтысячныя «імпрэзы». Вялізная блытаніна ўзьнікае ў сувязі з вялізнай колькасьцю рухаў і плыняў, якія абядноўваюцца пад гэтай назвай. Чалавеку несьвядомаму вельмі цяжка разабрацца, што насамрэч уяўляе з сябе гэты самы антыглабалізм ці гэта адзінае выйсьце для чалавецтва, практычнае ўвасабленьне ўтопіі, ці багна, якая праглыне чалавечую цывілізацыю. Пачнем з пачатку, а перадусім з фармулёўкі. ***Антыглябалізм гэта спроба знайсьці апазыцыю у адносінах да таго, што няможа быць у апазыцыі.*** Неяк анархічна гучыць, праўда? Не дзіўна, бо анархізм і антыглабалізм ідуць поруч, таму што ідэі, мэты і накірункі дзейнасьці вельмі часта супадаюць. Можна нават у пэўнай ступені сьцьвярджаць, што антыглабалізм вырас з анархісцкага руху. Зараз крыху гісторыі. Прынята лічыць, што перадумовы для ўзьнікненьня антыглабалізму зьявіліся ў далёкім 1944 годзе, калі былі ўтвораныя дзьве вялізныя карпарацыі. Гэта МВФ і Сусьветны Банк. Ствараліся яны з добрай мэтай дапамагчы моцна пацярпелай бабульцы-Эўропе ад Другой сусьветнай вайны. Ае сума займаў за 9 год атрымалася да сьмешнага маленькая 2 мільярды даляраў. Таму кіраўніцтва МВФ і СБ пачалі дзейнічаць як дальнабачныя бізнэсоўцы ствараць групы па выдачы пазыкаў канкрэтна для кожнай краіны, такім чынам яны жадалі стварыць глябальны колаварот фінансавых сродкаў у сьвеце і адчыніць эканомікі малых і ня вельмі малых краінаў для далейшага карпаратыўнага руху. Так паўстала глабалізацыя, праблемамі зьнішчэньня якой займаецца вельмі вялікая колькасьць разумных і прагрэсыўных людзей, юрыстаў, геапалітыкаў, сацыёлагаў, гісторыкаў, эколагаў, адным словам, антыглабалістаў. Наступствы глабалізацыі, паводле меркаваньняў ейнай апазыцыі могуць быць самымі страшнымі штучна створаныя фінансавыя крызысы ў краінах так званага «Трэцяга сьвету», разбурэньне экалёгіі, павышэньне ўзроўню беспрацоў»я гэта толькі самая малая частка злачынстваў глабалізацыі, якія перасьледуюць адну мэту татальнае ўзбагачэньне кіруючай фінансавай «вярхушкі». Натуральна, што асобы, якія безкантрольна пераганяюць штодня мільярды «электронных даляраў», ня спыняцца ні перад чым, дзеля ўзбагачэньня. Акрамя гэтага, глабалізацыя працэс аб»ядноўваючы, зьбліжаючы часткі сьвету, краіны, народы. З аднога боку гэта вельмі файна. Яскравым прыкладам таму можа служыць Эўразьвяз, дзе, фактычна, няма межаў і кантролю перасоўваньняў. Паўсталі звышхуткія оптавалаконныя каналы лічбавай сувязі. У пляне інфармацыі і фінансаў глябалізацыя ўжо паўсядзённасьць. Як піша Ільля Кармільцаў, разбурэньне двухполюснай сістэмы сьвету можна зьвязаць з татальнай інфарматызацыяй. «Сусьветная вёска», прадказаная калісьці Маршалам Маклюэнам стала рэальнасьцю едзь куды хочаш, рабі што хочаш, па сутнасьці, нацыі Эўропы могуць зьліцца з часам у адзін глябальны супэрэтнас. Усім будзе добра, цёпла, утульна, хопіць грошай і рэсурсаў. Усе будуць размаўляць на адной мове і сябраваць ад нараджэньня да сьмерці. Чым дрэнна? Можа і ні чым, але, на краіны з нязразьвітай эканомікай гэты працэс не распаўсюджваецца. Узяць хоць бы звышжорсткія ўмовы ўступленьня ў Эўразьвяз, ці тое, што ня ўсе сапраўды разьвітыя эўрапэйскія дзяржавы, кшталту Швэйцарыі, у яго не ўвайшлі, і нават не плянуюць гэтага рабіць. Чым можна патлумачыць той факт, што праз чатыры гады, пасьля ўваходжаньня Чэхіі ў НАТА (паспрабуй, знайдзі больш яскравы прыклад глябальнага блёку), у краіне пачаліся антыамэрыканскія настроі і справа ледзь не дайшла да рэферэндуму, па пытаньні аб выхадзе з гэтага вайскова-палітычнага зьвязу. Польшча павіна ўвайсьці ў Эўразьвяз адной з наступных, у сувязі з гэтым у заходніх ваяводствах узмацніліся антыглабалісцкія настроі у сувязі з тым, што буйны бізнэс з Галяндыі і Нямеччыны паступова манапалізуе гандаль, жывёлагадоўлю і скупае зямлю у польскіх фермераў. Гэта адзін з бакоў так званага працэсу глабалізацыі сьвету. Адвечнай ахвярай для дзеньняў антыглабалістаў даўно ўжо стала Амерыка, зь еймымі Макдональдсамі (якіх не абмінулі і мы), Кока-Колай ды Вялікай Амэрыканскай Марай. Натуральна, што зьнешняя палітыка такога гіганта, як ЗША мусіць грунтавацца на глабалізацыі гэта выводзіцца з прынцыпаў сусьветнага панаваньня, бо Халодную вайну выйграла Амерыка, тут ёй і карты ў рукі.




Такім чынам, на нашых вачох утвараецца другі двухполюсны сьвет, з аднога боку Штаты зь іх адвечнымі Міккі Маўсамі і Дональдамі, з другога малады, але моцны Эўразьвяз, з альтэрнатыўнай агульнай валютай, эканамічнай і прававой сыстэмамі. Да ўсяго, рэдка, але трапна дае голас Арабскі сьвет (пераважна ісламскі), ды розныя там Кітаі, Індыі, Японіі, якія таксама жадаюць адламаць свой кавалак ад пірага агульначалавечага шчасьця. Ня гледзячы на тое, што капіталістычная сістэма ўзаемадачыненьняў зьяўляецца пануючай і самай эфэктыўнай, антыглабалізм змагацца і зь ёй, прычым небезпадставуна. Прыгадайце хоць бы вышэйўзгаданыя штучныя крызысы, альбо манапалізацыю, альбо сыстэму сацыяльнай няроўнасьці, якая так ці йнакш існуе ў сучасным капіталістычным сьвеце.

Натуральна, што антыглабалізм, як зьява, рух, ідэялёгія, яшчэ вельмі далёкі ад ідэялу, тым больш, што развагі аб гэтай папулярнай і спрэчнай зьяве справе не аднаго артыкула, але, прааналізаваўшы ўсё вышэйпададзенае, неяк ня надта хочацца жыць ў глябальнай вёсцы, тым больш, як паказвае гісторыя, сэпаратызм, працэсы стварэньня свайго, асабістага, уласнага, больш уласьцівыя чалавечай натуры. Тым больш, зусім ня хочацца зьгінуць, як этнас, у вялікім сусьветным катле, няхай нават ён і будзе пікам разьвіцьця чалавечай цывілізацыі.

***Сяржук Стахоўскі***

# БЕЛАРУСЬ У ЭЎРОПУ

**60,9 % беларусаў прагаласвалі б «ЗА» на магчымым рэферэндуме аб уваходжаньні нашай краіны ў Эўрапейскі зьвяз. Такую лічбу прынесла чарговае апытаньне грамадзкае думкі, праведзенае НІСЭПД. Пераважная большасьць беларусаў хацелі б бачыць сваю краіну ў дэмакратычнай Эўропе. «Супраць» прагаласавала б толькі 10,9 % нашых грамадзянаў.**

Мы на сабе пачалі адчуваць перавагі «рынкавага сацыялізму». На пытаньне «на Вашую думку, у цэлым становішча ў нашай краіне разьвіваецца ў правільным кірунку ці ў няправільным?» пра няправільны кірунак кажуць 45 % грамадзянаў. Дзяржаўнай прапагандзе пра сьветлую будучыню верыць сёньня толькі каля 26 %.

З апытаньня вынікае таксама, што насуперак агітацыі на дзяржаўным узроўні з выкарыстаньнем усіх афіцыйных СМІ, «не» поўнаму паглынаньню Беларусі Расеяй, пры якім РБ перастане быць незалежнай, сувэрэннай краінай кажуць сёньня 74.9 % грамадзянаў. У ацэнках адносінаў між Расеяй і Беларусьсю сёньня дамінуюць такія ацэнкі як «нэйтральныя» (16.8 % апытаных), «халаднаватыя» (20.1 %), «напружаныя» (15.5 %). Прыкладна так ацэньваюцца адносіны паміж Пуціным і Лукашэнкам «нэйтральныя» (17.6 %), «халаднаватыя» (23.8 %), «напружаныя» (17.5 %). Пра «цёплыя» кажуць толькі 7,8 % апытаных.

Антызаходнюю палітыку беларускіх уладаў грамадзяне нашай краіны не падтрымліваюць. Напрыклад, перад імі паставілі пытаньне «Пасьля нядаўняга канфлікта А. Лукашэнкі з У. Пуціным праз беларуска-расейскую інтэграцыю шмат хто чакаў, што Беларусь будзе спрабаваць узнавіць адносіны з Захадам. Аднак замест гэтага беларуская ўлады фактычна прыпынілі дзейнасьць Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЭ ў Беларусі і сталі дэманстратыўна наладжваць адносіны з арабскімі краінамі. Ці ўхваляеце Вы такую замежную палітыку?» «Не» адказ 57.2 % грамадзянаў. «Так» толькі 18.1 %.

Збліжэньне рэжыму Лукашэнкі з краінамі-ізгоямі, з краінамі-тэрарыстамі беларусы таксама не вітаюць. На пытаньне «Многія краіны асуджаюць рэжым Садама Гусэйна ў Іраку. Нядаўна Рада Бясьпекі ААН прыняла адмысловае рашэньне, якое фактычна патрабуе ад Ірака ліквідаваць зброю масавага забойства. У гэты ж самы час беларускае кіраўніцтва заявіла пра поўную падтрымку Ірака на міжнароднай арэне. Ці ўхваляеце вы такую палітыку беларускага кіраўніцтва?» «Не» адказала 57,9 % апытаных.

Так што іншага шляху, як у Эўропу, у Беларусі няма.

***Паводле Хартыі `97***





## МАЦІ

Маці, чакаеш мяне
Сэрцам, душой адчуваю.
Недзе стаіш на шляху
Удалячынь пазіраеш.
Нялёгка бацькам,
Нялёгка і дзецям…
Атрымаю палучку
Сямёю прыедзем.
Бульбу скапаем,
Што трэба, дажнём.
Выбію каня
Дровы звязём.
Выпем па чарцы
І песні спяваць…
Захочацца ў пуні
На сене паспаць.
Сходзім на магілу
Нашага таты,
Пацалуем вас мілых
І паедзем да хаты.

## ВЕЧНАЕ

Вабіць людзей патаемнае, вечнае:
Музыка лесу, вады.
Прырода дала нам усё чалавечнае:
Трэба яго праз жыццё пранясці.
Па лесе іду нібы кнігу чытаю.
З шумлівай ракою бяседу вяду.
Навокал прырода такая даступная,
Што дзякваць Богу хачу.

## ШЛЯХ

Па шляху іду даўно.
З кіем, хатулём здалёк.
Быў ранак,
Ясны дзень,
Наступіць змрок,
На небе ўспыхне рой зор.
Будзе іх шмат,
прамяністых
Там ёсць адна мая…
Палячу у патаемнае,
У вечнасць…
З сабой не трэба хатуля.

## РУХ

Комін, нібы жалейка, дзіравы,
Восеньскі дзьме вецярок.
Мелодыя суму наводзіць,
Нібы грае якісь пастушок.

Пад шапкаю пере сівога луня
Рукі ракавы клешні
Чырвоныя ногі бусла
Усё рыпіць ні легчы , ні сесьці.

Кій з ядлоўца вазьму,
Рупіць венікі на продаж аднесьці.
Жыццё гэта рух
Трэба нешта і есьці.

## МЕТЭОР

Любіў з дзяцінства
Глядзець на зорнае неба,
Трымаючы лустачку чорнага хлеба.
Аднойчы прачнуўся на досвітку рана:
Вялікія зоркі свяцілі,
Малыя ўжо дагаралі.
Бачу, на зямлю
Яркая зорка ляціць
Прамільгнула маланкай,
Перад самай зямлёй
рассыпалася на кавалкі.
Маці, зорка ўпала,
Крычу і бягу босы па хаце.
Эх, сынку, нам зорак
З неба ніхто не кідае…
Тужліва-задумліва галавой
Яна ківае.

## ПАЛЯЎНІЧАМУ

Нетаропка іду па зялёным імху,
Хутка бялюткая выспа з пяску,
Вітае бабоўніка мноства тычынак,
Месца знаёмае мой адпачынак.

Задаволю смагу вадою крыніцы,
Нешта ў пляцак палажылі сястрыцы.
Крыху падстрэліў балотнае дзічы,
Зкіпіць чыгунок на старэнькім кастрышчы.

Падушка пляцак, сухая трава.
Сушылка цяпло ад агня.
Ложак галлё, асака.
Пошчакі птушак, звяроў калыханка мая.

***Вячаслаў Атрахімовіч***

## РАСТЕНИЯ МОГУТ ПРЕДСТАВЛЯТЬ СОБОЙ НЕИССЛЕДОВАННУЮ ФОРМУ РАЗУМА

Академик Эдинбургского университета Тони Труэвас полагает, что растения, на самом деле, обладают зачатками разума.

Они, по мнению академика, способны к вычислениям почти в той же степени, что и животные, кроме того, растения предвидят возможные катаклизмы и помнят о том, что происходило с ними в прошлом, пишет The Herald.

Труэвас полагает также, что растения поглощают информацию и перерабатывают ее на почти таком же сложном уровне, что и мозг человека или животных. Следовательно, растения обладают своеобразной формой интеллекта.

Академик не склонен разделять общепринятую точку зрения, гласящую, что в своих «действиях», растения руководствуются только своего рода «инстинктом», выработавшимся за сотни миллионов лет эволюции. По его мнению, уже сам факт того, что на их долю приходится до 99% всей земной биомассы, говорит о том, что растения гораздо лучше других живых существ умеют «договариваться» с природой, сообщает membrana.ru.

Однако вряд ли стоит искать брата по разуму в горшке с геранью: «интеллектом» обладают только те растения, что живут в условиях дикой природы и не избалованны цивилизацией.

***www.tut.by***
***(По материалам НТВ)***

## САДОВНИК ВЫВЕЛ РАСТЕНИЕ, ЗАЩИЩАЮЩЕЕ ЛУЖАЙКИ ОТ СОБАК И КОШЕК

Дитер Штегмайер, профессиональный немецкий садовник, вывел вонючее растение, название которого можно перевести как «отвали».

Новый представитель немецкой флоры должен защищать лужайки от собак и кошек, стремящихся использовать аккуратные островки зелени в собственных целях. Новое растение не оскорбляет человеческого осязания: лишь порвав лист, человек может почувствовать запах шнапса.

Селекционер утверждает, что «отвали»— гибрид некоего австралийского растения и бразильской крапивы — успешно справляется со своей задачей. «Животные из соседних домов больше не пытаются использовать мой сад как туалет, — говорит Штегмайер. — Они не могут приблизиться к растению даже на метр.»

Помимо утилитарных функций, «отвали» имеет и приятный внешний вид: почти все лето это неприхотливое растение усеяно голубыми цветами.

***www.tut.by***
***(По материалам Lenta.ru)***

## ЕСЛИ У ВАС В КВАРТИРЕ ХОЛОДНО!!!

Начальнику
ЖЭО №_____ г. Новополоцка
_______________________________
от_______________________________
проживающего(ей) по адресу :
г. Новополоцк
ул.________________________
д. _____ кв. _____

**Жалоба**

У меня, ______________________________ , на данный момент в квартире ____С, что на _____ С ниже минимальной нормативной температуры (18 С).

Я в свою очередь своевременно вношу плату за отопление и , следовательно, имею право требовать соблюдения данной нормы.

В связи с этим прошу принять меры к установлению в моей квартире температуры не ниже нормативной (18 С), а также прошу дать мне, в установленные законом РБ «О обращениях граждан» сроки, письменный ответ о принятых мерах по моему заявлению. В случае непринятия срочных мер с Вашей стороны дальнейшее рассмотрение вопроса будет производиться через вышестоящие органы.

__________ (дата) __________ (подпись)

**Паважаныя навапалачане!**
У выпадку парушэньня Вашых правоў зьвяртайцеся за бясплатнай дапамогай да прадстаўнікоў Грамадскага аб'яднаньня **"Праваабарончы цэнтр "Вясна"** ў Наваполацку.
Кантактны тэлефон: **52-89-56**

За дакладнасьць фактаў і лічбаў нясуць адказнасьць аўтары. Думкі аўтараў могуць не супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі

Адрэса для допісаў: 211440, Наваполацак -8, п\с №26. E-mail:dzjannica@tut.by

Выдаецца на правах рукапісу. Наклад 299 асобнікаў. Тэксты артыкулаў друкуюцца на мове аўтара.